# Наш шлях.

——

> К свабодзе, роўнасьці і знаньню мы працярэбім сабе сьлед, і будзе ўнукаў панаваньне там, дзе сягоньня плачэ дзед.
>
> *Янка Купала.*

*Жывы* народ—той, каторы можэ тварыць. Творчэская сіла—гэта ўсё роўна, як той клёк, што зерняці дае сілу выгнаць з зямлі расьліну — дрэва, каторое будзе далей радзіць такіе-ж зерняты і новую красу даваць зямлі.

Усё, што ўзбагачывае нашае жыцьцё, што паддзержывае і развівае яго, карысна і добра для ўсяго чэлавечэства. Гэтак і *творчэская сіла*, як фундамэнт жыцьця, ёсць найвялікшае багацьце чэлавечэства і асобных народаў, ёсць цэннасьць, аб каторай ніякай споркі быць ня можэ.

Марнаваньне творчэскіх сіл —наш найвялікшы грэх. Гэта—дабравольнае самагубства. Што не пашло на тварэньне новаго багацьця, тое прапала на векі, бытцым пушчэна на вецер. Тым болей шкодна і дрэнна тая работа, каторая зводзіць людзей і народы з іх простай дарогі і на мейсца культурнай працы ставіць змаганьне між імі *дзеля панаваньня над слабейшым*, дзеля зніштажэньня таго, што створыла чужая культура.

Без змаганьня, без вайны, за праўду, за вызваленьне ад уціску і крыўды — абыйціся нельга. Але само змаганьне, да-

ючы волю, ешчэ ня творыць нічога, а забірае страшэнне многа сіл і энэргіі.

Не шкада сіл нашых, калі мы аддаём іх на тое, што ўзбагачывае нашу душу, павялічывае моц народу. Калі-ж яны ідуць адно толькі на развіцьце ў нас благога — ненавісьці, злосьці, завісьці і т. п., калі атдаюцца на змаганьне з другімі націямі, станамі, ці клясамі не дзеля вызваленьня, а толькі каб пакрыўдзіць слабейшаго, — тады шкада вытрачэных жыцьцёвых сіл, шкада, бо яны назад ня вернуцца і не ўзбагацяць нашэй культурнай скарбніцы.

Каб не марнаваць дарма сіл, каб не глуміць гэтаго найдаражэйшаго скарбу, лепшые людзі ўсіх націй стараюцца шырыць у сваім народзі думкі аб згодзі, аб тым, каб звясьці зусім національные сваркі і змаганьня. Асаблівую вагу гэткая работа мае ў нашым краю, дзе разам жывуць ажно пяць націй, дзе кожнай з іх трэба даць мейсца і прастор для развіцьця—бяз крыўды для суседзеў. «Жыві сам і дай жыць другім»—гэтай думкай павінны кіравацца мы, беларусы, дабіваючыся правоў для сябе. Воля, роўнасць і брацтва ўсіх людзей і націй на нашай зямлі — вось той пуцяводны аганёк, каторы завядзе наш народ і ўвесь край да лепшай, яснейшай будучыны.

«Воля, роўнасьць, брацтва» — за гэтые тры словы больш сотні гадоў таму назад праліваў сваю кроў францускі народ. С Франції яны разыйшліса па ўсім сьвеці і ўсюды становяць фундамэнт, на каторым будуецца шчасьце народаў. Але, каб народ мог папраўдзі нешта будаваць, каб мог заняць належнае яму мейсца ў вялікай сусьветнай сямьі, трэба, каб ён *жыў і тварыў*. Вось, *развіцьце творчэскіх сіл беларускаго народу павінна быць нашай першай мэтай*, і ў кожнай справе, ў кожнай рабоце мы павінны да яе кіравацца.

У сучасных варунках на дарозі да новаго жыцьця мы спатыкаем багата перашкод, ат каторых трэба так ці гэтак вызваліцца. Да гэтых перашкод належыць перш-на-перш

цяперашніе палітычные варункі і наша «акраінная» палітыка, каторая задзержывае развіцьце ўсіх «інородцоў». Да перамен у дзержаўным жыцьці вядуць разные дарогі; кожная партыя, кожная арганізація мае сваю асобную праграму, ужывае іншых способоў у палітычнай рабоце, іншые жаданьня пішэ на сваім штандары. Дык мы ня будзем чапаць справы дзержаўнай палітыкі; скажэм толькі адно: каб вызваліцца ад палітычных перашкод, грамадзянство павінно вытварыць у сабе вялікую арганізованную сілу. Іначэй слово і жаданьне яго ніякой вагі мець ня будзе.

Толькі высокая культура, толькі экономічная моц даюць кожнаму народу тую сілу, што можэ тварыць новае жыцьцё. Кожын народ, каторы хочэ жыць, хочэ сам—сваімі рукамі і павэдлуг сваей думкі—будаваць сваю будучыну, павінен ісьці да сваей мэты двумя дарогамі: адна—гэта пашырэньне прасьветы, развіцьце грамадзянскай і нацыональнай сьвядомасьці народу; другая—развіцьце яго экономічнай сілы, стварэньне цьвёрдаго экономічнаго фундамэнту. На гэткі шлях жыцьцё клічэ асабліва нас, беларусоў, бо такой работы ў нашым народзі дагэтуль бадай ніхто рабіць не памыкаўся.

У гэтай рабоце кожны шчыры беларус, кожны праўдзівы грамадзянін нашэй старонкі знойдзе для сябе даволі мейсца і заўсёды здалее прылажыць да яе сваю руку. За 7—8 гадоў, як начаў шырыцца беларускі рух, ідзе работа дзеля адраджэньня нашаго народу, жыцьцё само назначыло праграму культурна-національнай і экономічнай працы.

«Работа наша павінна ісьці глаўным чынам да пашырэньня прасьветы і развіцьця грамадзянскай і національнай сьвядомасьці у беларусоў, а поруч з гэтым развіваць экономічную сілу народа. Дзеля першай мэты трэба рабіць вось што:

1) завадзіць школы, бібліотэкі, чытальні, рабіць лекціі, організовываць курсы для народу і т. п. ды ўсюды праводзіць у жыцьцё думку аб національізаціі прасьветы як школьнай, так і за межамі школы;

2) шырыць друкаванае слова—кніжкі, газэты, брошуры—ў беларускай мове; прыкладываць сваю руку да іх выданьня;

3) аткрываць уселякіе кружкі і таварыствы, дзе можна было-бы шырыць грамадзянскую і нацыональную сьвядомасьць;

4) працаваць дзеля развіцьця беларускай літэратуры, штукарства, тэатру і музыкі (песьні);

5) знаёміць шырокіе кругі з нашай мінуўшчынай, цяперашнім палажэньнем народу і яго задачамі ў будучым; організоваць выстаўкі і музэі этнографічные, гісторычные, кустарные і т. п.

„Дзеля таго, каб узрастала экономічная сіла народу, трэба развіваць усе яго творчэскіе сілы і рупіцца аб тое, каб здабыць патрэбные варункі. На гэтым грунці работу трэба вясьці гэтак:

1) развіваць у народзі прывычку здаволіваць свае патрэбы сваімі сіламі—супольнай, хаўруснай працай;

2) памагаць умацаваньню і развіцьцю селянскай гаспадаркі, пашырэньню селянскай зямельнай ўласнасьці; аткрываць таварыствы дзеля парцэляціі зямлі між беларусамі і бараніцца ад наплыву чужынцоў;

3) аткрываць уселякіе хаўрусы і суполкі — крэдытные, гандлёвые, дзеля супольнай працы над вырабам розных тавароў і т. п.

4) организаваць сельска-гаспадарскіе хаўрусы, школы, выстаўкі і інш.

5) завадзіць организаціі дзеля падмогі коопэраціі, развіцьцю гаспадаркі, хатняго рэмесла і т. д.

6) рупіцца аб паляпшэньні варункоў працы.

7) памагчы упарадкаваць справы эміграціі; старацца заместа эміграціі у Амэрыку организоваць эміграцію на сэзонные работы у бліжэйшые краі (на лета), каб людзі верталіся да хаты з грашыма і з навукай сельскай гаспадаркі павэдлуг практыкі ў чужыхъ старонах.

« Кожын крок на гэтай дарозі будзе наблiжаць нам той

момэнт, калі народ, пазнаўшы свае патрэбы і навучыўшыся сваімі сіламі здаволіваць іх, наканец-такі *возьме ўсе свае справы у свае рукі*».

Такую праграму-дэклярацію надрукавала сёлета «Наша Ніва» (№ 2—1913 г.), каторая ўжо восьмы год працуе дзеля адраджэньня беларусоў і клічэ да работы ўсіх праўдзівых сыноў нашай Бацькоўшчыны. Пазнаньне краю і сямілетняя практыка — вось фундамэнт, на каторым сяўцы беларускіх ідэй апіраюць гэту праграму. І гэты шлях — самы просты, самы натуральны: ён вядзе да вызваленьня нашаго народу с путаў цемнаты, безпраўя, беднасьці,—вядзе да таго, што і беларусы здалеюць выявіць сьвету ўсё, што заложэна прыродай у народнай душы, і споўніць тую гісторычную роль, якую ім назначыло спрад вякоў жыцьцё.

*Антон Новіна.*

Вільня, 22/IV 1913.

# З лісту п. проф. Э. А. Вольтэра
## да Рэдакціі.

Паважаны пан професар Эд. А. Вольтэр у ласкавым лісьце сваім да нас, шчыра вітаючы «Маладую Беларусь», звертаець нашу увагу на тое, што ў 1501-м гаду «die Mercurii ultima mensis Martis» у апошнюю сераду месяца сакавіка (Марца) Эразм Витэллій [1]) гаварыў у Рыме папежу Александру Шостаму: «(Літвіны) Linguam propriam observant. Verum, quia R u t h e n i [2]) medium fere ducatum incolunt, illorum loquela, dum g r a c i l i s et f a c i l i o r sit, utuntur communius» (Theiner T. II pag. 278 [3]). Гэта значыць: (Літвіны) маюць сваю ўласную мову; але дзеля таго, што Русіны (беларусы) жывуць амаль не ў сярэдзіне (іх) княжства, яны (літвіны) часцей ужываюць іхняй (беларускай) гутаркі, бо яна п р ы г о ж а я і б о л і л ё г к а я».

Ахвотна і с падзякай друкуем мы тут гэту вельмі цікавую и важную для нас гісторычную, спрад 412-ці гадоў, вестку аб нашэй мове.

*Рэдакція.*

---

[1]) Erasmus Vitellius — Эразм Витэллій—гэта лацінскае названьне, па польску ён зваўся Erazm Ciołek (па нашэму Цялюк). Родам поляк, здаецца, с Кракова, чэлавек вельмі вучоны, быў ён у тым часе катэдральным віленьскім пробощэм, протонотарыушом папежскім і сэкрэтаром вялікага князя літоўскаго Александра, каторы пасылаў яго ў Рым выразіць папежу Александру VI-му Борджія сваю пакорнасьць. Гаварыў ён гэта у сваей мове к папежу. У 1503 ён стаўся Плоцкім біскупам і памёр у 1522 г.

[2]) Rutheni—Русіны, так называлі тагды беларусаў, рассейцаў жэ, велікароссаў, звалі Moscoviti—маскалі.

[3]) Мова Витэллія выдрукавана ў агромнай кнізе: «Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia maximam partem nondum edita ex tabulariis Vaticanis deprompta, collecta ac serie chronologica disposita ab **Augusto Theiner** presbytero Congregationis Oratorii, Consultore ss. Congregationum Indicis librorum prohibitorum, Episcoporum et Regularium ac Sancti Offici, Socio Collegii Theologorum Archigymnasii Romani, Academiae Pontificiae Archaeologiae et Academiae Herculanensis, Institutorum Belgici et Hungarici, Tabulariorum Vaticanorum praefecto etc. etc. Tom II Ab Joanne PP. XXIII usque ad Pium PP. V 1410—1572. Romae 1861. № 299, стран. 278, верш. чацьвёрты зверху.

*Рэдакція.*